

# КААПЭРАЦЫЯ БССР

ЧАСОПІС

КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАУ БССР, БЕЛСЕЛЬБАНКУ І ЎСЕКАБАНКУ

ВЕРАСЕНЬ

№ 12

1929

МЕНСК

# ЗЬМЕСТ



## Практыка нашае працы



## На месцах



## Бібліографія

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# КААПЭРАЦЫЯ Б. С. С. Р.

ДВУХТЫДНЁВЫ ОРГАН
КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР,
БЕЛСЕЛЬБАНКУ і ЎСЕКАБАНКУ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
АЛ. КРАСОЎСКАГА, МАТУСЭВІЧА,
ТУМАСА, Г. ХАСКІНА і А. ФРЫДА

ПЕРШЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 12

ВЕРАСЕНЬ



МЕНСК — 1929

Г. Хаскін

# За калектывізацыю сельскай гаспадаркі

Пэрыод рэканструкцыі народнай гаспадаркі патрабуе значных зьмен у працы ўсіх галін народнае гаспадаркі. У сучасны момант ня могуць быць дастатковымі тэмпы і мэтады, якія былі некаторы час таму назад. Правільная генэральная лінія нашай партыі, накіраваная на індустрыялізацыю краіны, перабудову сельскае гаспадаркі на новых сацыялістычных пачатках, фарсыраванае наступленьне на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, ставіць перад кожнай галінай народнае гаспадаркі, перад кожнай арганізацыяй адказную задачу—перабудаваць сваю працу так, каб яна сапраўды была накіравана на поўнае правядзеньне генэральнай лініі нашае партыі, каб уся праца была строга пастаўлена на службу вялікай справе будаўніцтва сацыялізму ў нашай краіне.

Тав. **Гамарнік** у сваёй прамове аб кантрольных лічбах на 29-30 г. на верасьнёўскім пленуме ЦК КП(б)Б, закрануўшы пытаньне аб калектывізацыі сельскае гаспадаркі, сказаў: „На наступны год мы запраэктавалі высокі тэмп калгаснага будаўніцтва, і я ўпэўнены, што мы вытрымаем яго, калі напружым усе свае сілы, калі паставім на службу гэтай справе ўсе нашы апараты, калі прывядзём у рух усе адпаведныя органы“.

Мне здаецца, што гэта ўстаноўка тав. Гамарніка ў аднолькавай меры захоўвае сваю сілу як у адносінах выкананьня тэмпаў калектывізацыі сельскае гаспадаркі, так і ў адносінах выкананьня тэмпаў індустрыялізацыі краіны. І пагэтаму ўсю нашу працу мы павінны накіраваць згодна з гэтай зусім правільнай устаноўкай. Закрануўшы пытаньне аб ролі спажыв. каапэрацыі ў руху па перабудове сельскае гаспадаркі на новых сацыялістычных пачатках, калектывізацыі вёскі, трэба сказаць, што спажыўкаапэрацыя, якая зьяўляецца вялізарнай грамадзка-масавай арганізацыяй у вёсцы, сваю працу далёка яшчэ не перабудавала так, каб служыць справе калектывізацыі сельскае гаспадаркі, і не прывяла сябе ў такі рух, каб стаць у баявыя шэрагі па выкананьні запраэктаваных высокіх тэмпаў калгаснага будаўніцтва.

Тут мы хочам са ўсёй рашучасьцю паставіць пытаньне аб неабходнасьці крутога павароту ўва ўсёй працы спажыўкаапэрацыі. Апошняя павінна павярнуцца тварам да калектывізацыі сельскае гаспадаркі, а для гэтага трэба зьмяніць цэлы рад форм і мэтадаў працы як па лініі арганізацыйнай, та і па лініі апэрацыйнай. Ці можа заставацца пры старых мэтадах свае працы, напрыклад, Клімавіцкая каапэрацыя, калі ўвесь раён ахоплен буйным ростам калгаснага будаўніцтва? Бязумоўна, не; трэба працу перабудаваць і як мага хутчэй.

Мы не памылімся, калі скажам, што праўленьне Днянросаюзу, у раён абслугоўваньня якога ўваходзіць Клімавіцкі раён, яшчэ не паставіла перад сабою са ўсёй вострасьцю пытаньня аб правядзеньні цэлага раду неабходных мерапрыемстваў, накіраваных для абслугоўваньня Клімавіцкага раёну, які ахоплен вялікім калгасным рухам. А такіх раёнаў, як Клімавічы, у нас, вядома, будзе ў самы бліжэйшы час вельмі многа.

Усё яшчэ застаецца такая думка, што спажыўтаварыства ў вёсцы асаблівай ролі ў справе калектывізацыі сельскае гаспадаркі адыграць ня можа, а ў асобных выпадках само таварыства перашкаджае гэтай справе, не разумеючы ўсяе шкоднасьці такіх адносін. Тут нам хочацца прывесьці словы т. Гамарніка, якія былі ім сказаны ў яго дакладзе на апошнім актыве Менскае арганізацыі. Кажучы аб барацьбе з правым ухілам, тав. Гамарнік сказаў: „У нас ёсьць такія камуністы, якія ў практыцы сваёй працы праводзяць яўны правы ўхіл і часта гэтага самі не разумеюць і кажуць: „які-ж я правы ўхіліст, я за генэральную лінію партыі, падаю голас за ўсе рашэньні партыі і г. д.“. Гэтыя словы могуць быць дапасаваны да многіх нашых каапэратараў, якія праводзяць на практыцы правы ўхіл. Напрыклад, наш каапэратар ня лічыць сябе правым ухілістам, калі ён каапэруе кулака, калі ён фонд каапэраваньня беднаты скарыстоўвае для каапэраваньня варожых нам элемэнтаў, калі ён, кажучы, што ў яго вельмі мала тавараў, адмаўляе ў выдачы іх калгасу з прычыны недахопу тавараў для сваіх пайшчыкаў; ці ведаючы, што ў гэтым калгасе ёсьць трактар, ён не клапаціцца, каб у яго ў каапэратыве былі для гэтага трактара падрыхтаваны неабходныя змазачныя матар‘ялы і г. д.

Спажыўкаапэрацыя, якая налічвае звыш 500 спажывецкіх таварыстваў, з вялікай колькасьцю сваіх аддзяленьняў у самых глухіх кутках вёскі, можа і павінна дапамагчы партыі і дзяржаве ў ажыцьцяўленьні вялікай задачы калектывізацыі сельскае гаспадаркі.

Нам здаецца, што як сама дапамога спажыўкаапэрацыі справе калектывізацыі сельскае гаспадаркі, так і перабудова самае яе працы павінна ісьці па наступных напрамках:

Актыўная агітацыйная праца сярод асноўных мас сялянства за калектывізацыю сельскае гаспадаркі. Гэта актыўная агітацыйная праца павінна прасякаць наскрозь усю працу спажыўтаварыства як у працэсе самае працы, так і ва ўсёй грамадзка-масавай працы, на ўсіх пасяджэньнях праўленьня, на агульных сходах пайшчыкаў, каапэрацыйнага актыву, на сходах беднаты і г. д.

Кожнае спажыўтаварыства павінна паставіць перад сабой задачу з ня ўцягненых яшчэ ў калгасы сяброў каапэрацыі ўтварыць калгас, прымаючы актыўны ўдзел у арганізацыі гэтага калгасу, усяляк дапамагаючы як у арганізацыйных, так і гаспадарчых адносінах.

Абслугоўваньне калгасаў усімі відамі снабжэньня павінна быць поўнасьцю ажыцьцёўлена. У гэтых адносінах неабходна кожнаму спажыўта-

варыству ўстанавіць такі парадак, пры якім сябры калгасу забясьпечваліся-б таварамі па падвышанай норме, а дзеля бесьперапыннага снабжэньня трэба, папершае, забясьпечыць калгасы ў першую чаргу шляхам выдзяленьня спэцыяльных фондаў і, па-другое, арганізаваць сыстэму папярэдніх заказаў ад калгасаў. Гэта становішча, апрача ўсяго, пазбавіць нашы калгасы ад лішняй траты часу і дасьць магчымасьць больш рэгулярна іх забясьпечваць. Пры забесьпячэньні таварамі калгасаў спажыўтаварыствы павінны выходзіць з таго, наколькі той ці іншы калгас па свайму эканамічнаму становішчу зможа поўнасьцю плаціць за набываныя ім тавары, дапушчаючы слабым калгасам шырокую арганізацыю таварнага крэдытаваньня. Побач з гэтым павінна быць праведзена 100-проц. каапэраваньне калгасаў.

Асаблівая ўвага ва ўсёй працы спажыўтаварыства павінна быць зьвернута на набліжэньне каапэрацыйнай крамы да калгасу. Зараз мы ня можам будаваць свае пляны пашырэньня сеткі крам, ня ўлічваючы неабходнасьці будаваць крамы так, каб поўнасьцю забясьпечыць блізкае абслугоўваньне калгасу. Ужо цяпер будзе ня кепска, калі ў асобных раёнах будзе зроблена некаторая перасоўка крам для набліжэньня іх да калгасу.

Асаблівая дапамога калгасам з боку нашых каапэрацыйных арганізацый павінна быць зроблена ў правядзеньні масавай і культасьветнай працы сярод іх сяброў.

Тут трэба, каб кожнае спажыўтаварыства ў сваіх плянах культасьветнай працы канкрэтна вызначыла суму мерапрыемстваў у галіне абслугоўваньня сяброў калгасаў, асабліва ў частцы арганізацыі гурткоў, куткоў, кніжных паліц, кіно і г. д., выдзяляючы неабходныя сродкі з фондаў, якія ёсьць для гэтага.

Наша сыстэма за апошні час разгарнула значную працу па бытавому абслугоўваньню каапэраваных мас шляхам арганізацыі ясьляў, пляцовак і г. д. У гэтых адносінах нашы арганізацыі на месцах павінны шырока пайсьці насустрач калгасам.

У плянах па арганізацыі ўсіх вышэйпаказаных бытавых устаноў павінна быць адведзена вялікае месца арганізацыі гэтых мерапрыемстваў у калгасах. У гэту справу неабходна шырока ўцягнуць сяброў калгасаў, асабліва жанчын-калгасьніц.

Усё гэта, вядома, можна будзе ажыцьцявіць, калі ва ўсёй нашай працы будзе праводзіцца выразная лінія партыі, выразная клясавая лінія, і калі будзе поўнае разуменьне задач, што перад намі стаяць. Ня трэба таіць, што ў гэтых адносінах мы кульгаем і кульгаем на абедзьве нагі.

Нашы каапэрацыйныя арганізацыі яшчэ далёка не пазбавіліся ад кулацкіх, чужых і варожых нам элемэнтаў, якія скажаюць клясавую лінію ў працы, часта працуюць на руку нашаму клясаваму ворагу.

Пагэтаму, побач з неабходным паваротам ва ўсёй нашай працы, павінен быць зроблен рашучы паварот і ў бок бязьлітаснай барацьбы са ўсякімі праяўленьнямі, якія скажаюць клясавую лінію, з праяўленьнямі кулацкай ідэалёгіі ў працы каапэрацыі.

У пэрыод абвостранай клясавай барацьбы нам неабходна асабліва ўважліва сачыць за ўсімі праяўленьнямі нашага клясавага ворага і за выразнасьцю партыйнай лініі ў працы кожнага нашага працаўніка.

Жыць у міры з кулаком, нэпманам, не сварыцца з ім у часе загатоўчай кампаніі, дапамагчы яму ў цяжкую хвіліну водпускам дэфіцытных тавараў, а калі-небудзь і каапэраваць яго за лік фонду каапэраваньня беднаты,—такіх працаўнікоў у нашай сыстэме, праўду кажучы, ня мала. Пагэтаму барацьба з канкрэтнымі насіцелямі правага ўхілу ў нашай сыстэме павінна быць самая суровая, бо бяз гэтага мы ня выканаем пастаўленай перад намі задачы.

І. Гармізэ

# Пра ход капітальнае будоўлі ў спажыўкаапэрацыі БССР і плян на 1929-30 год

1928-29 год—гэта першы год, калі БКСаюз пачаў плянаваць капітальную будоўлю. Да 1928-29 году БКСаюз не кіраваў будоўляю ў сыстэме, а яна рабілася больш самымі арганізацыямі. Само сабою зразумела, што такая арганізацыйна-тэхнічная пастаноўка важнага вучастку каапэрацыйнае гаспадаркі не магла забясьпечыць будоўлі патрэбнае эфэктыўнасьці і ўвязі паасобных пачынаньняў з інтарэсамі патрэбнасьці ўсяе сыстэмы ў пашырэньні і аднаўленьні асноўных фондаў. Апрача таго, адсутнасьць адзінага кіраўнічага цэнтру капітальнае будоўлі была аднэю з прычын, што спажыўсыстэма БССР ня досыць выразна фармулявала ні перад урадавымі органамі, ні перад Цэнтрасаюзам тых вялікіх запатрабаваньняў у галіне капітальнае будоўлі, якія натуральна выцякаюць з агульнае адсталасьці гаспадаркі.

Робіцца відавочным, што ўпарадкаваньне капітальнае будоўлі павінна было пайсьці перш за ўсё па лініі збору ўсяе будоўлі ў цэнтры кіраўнічае ўвагі БКСаюзу, а гэта значыла, што трэба было складаць адзіны плян, па-першае, па вучоту неабходнае будоўлі, па-другое, каб вышукаць сродкі фінансаваньня і, па-трэцяе, каб накіраваць сродкі па лініі безадкладнае будоўлі з пункту гледжаньня інтарэсаў усяе сыстэмы і паасобных арганізацый.

Нельга ня спыніцца на некаторых цяжкасьцях, якія зьявіліся і жывуць да гэтага часу і зьяўляюцца перашкодаю пры плянаваньні будоўлі. Гэтыя цяжкасьці, коратка кажучы, зводзяцца да наступнага: па-першае, мы ня мелі і ня маем і цяпер вучоту дзейнае маемасьці ў сыстэме, як уласнае так і арэнднае, па-другое, мы стыкнуліся з адсутнасьцю распрацованых тэхна-эканамічных стандартаў, што павінны забясьпечыць найбольш танную і разам з тым найбольш прыдатную да каапэрацыі будоўлю, па-трэцяе, мы ня мелі вестак пра ўкладаньні за мінулыя гады і будоўлі за леташні год, і ўрэшце, па-чацьвертае, мы ня маем патрэбнага тэхнічнага апарату, каб абслугоўваць і арганізоўваць будоўлю ў спажыўкаапэрацыі БССР.

Вось па існасьці тая абстаноўка, у якой БКС давялося прыступіць да арганізацыі і кіраваньня капітальнаю будоўляю ў сыстэме. Усё-ж БКС, праўда з вялікімі цяжкасьцямі, удалося своячасова скласьці адзіны цэнтралізаваны плян капітальнае будоўлі на 1928-29 год па ўсёй сыстэме, і гэты плян падаць на разгляд урадавых органаў і Цэнтрасаюзу. Складаньне пляну капітальнае будоўлі на 1928-29 год супала як раз з распрацоўкаю

кантрольных лічбаў пяцігадовага пляну, што дазволіла ўвязаць пачынаньні 1928-29 году з больш доўгаю пэрспэктываю пашырэньня і рэканструкцыі асноўных фондаў сыстэмы.

Па паасобных зьвенчаках сыстэмы была намечана такая будоўля:

| | Сельскія і местач. спажыв. т-вы | ЦРК | Райсаюзы | Б. К. С. | Разам |
|---|---|---|---|---|---|
| | (У тысяч. рублёў) | | | | |
| Крамная будоўля . . . . . . . . . | 500 | 225 | — | — | 725 |
| Складовая . . . . . . . . . . . . | — | 100 | 194 | 100 | 394 |
| Хлебапячэньне . . . . . . . . . . | — | 414 | — | — | 414 |
| Грамадзкае харчаваньне . . . . . . | 53 | 350 | | — | 403 |
| Разам . . . . . . | 553 | 1089 | 194 | 100 | 1936 |

Мы бачым, што плян меркаваў, галоўным чынам, будоўлю па нізавым зьвенчаку, што адлюстроўвае нашу ўстаноўку, у першую чаргу, на мерапрыемствы, зьвязаныя з больш удасканаленым абслугоўваньнем спажыўца і паляпшэньнем якасьці абслугоўваньня.

Намечаныя капітальныя ўкладаньні меркавалася пакрыць уласнымі сродкамі—681 тыс. руб., з саюзнага бюджэту—150 тыс. руб., з рэспубліканскага—150 тыс. руб., з мясцовага—50 тыс. руб., АДК—245 тыс. руб., з фонду доўгатэрміновага крэдытаваньня—265 тыс. руб.

У якой ступені намечаныя крыніцы аказаліся рэальнымі:

| КРЫНІЦЫ КРЭДЫТАВАНЬНЯ | Намеркавана па пляну | Будзе атрымана | + больш — менш |
|---|---|---|---|
| | (у тыс. руб.) | | |
| Уласныя сродкі . . . . . . . . . . . . . . . . . | 681 | 409 | —272 |
| Ф. Д. К. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 265 | 358 | +93 |
| Саюзны бюджэт . . . . . . . . . . . . . . . . . | 150 | — | —150 |
| Рэспубліканскі бюджэт . . . . . . . . . . . . . | 150 | — | —150 |
| Мясцовы бюджэт . . . . . . . . . . . . . . . . | 50 | 25 | —30 |
| А. Д. К. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 245 | 509 | +264 |
| Цэнтрасаюз . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 50 | 50 | — |
| Страхсэкцыя . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 45 | 100 | +55 |
| Акц. т-ва „Нархарч“ . . . . . . . . . . . . . . | 100 | 100 | — |
| Усекабанк . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 20 | 20 | — |
| Камунбанк . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 175 | 90 | —85 |
| Мясцовы фонд . . . . . . . . . . . . . . . . . | 5 | 36 | +31 |
| | 1936 | 1692 | 244 |

Што меркавалася будаваць і што фактычна за гэты год будзе пабудавана?

Перш, як адказаць на гэтае пытаньне трэба адзначыць, што калі БКСаюзу ўдалося сёлета сабраць сваім вучотам буйную будоўлю (сталоўні, хлебазаводы і склады), то крыху горш справа з вучотам дробнае будоўлі (галоўным чынам крам і дробных рэмонтаў). Ва ўсякім выпадку ёсьць упэўненасьць у тым, што адпушчаныя сродкі на дробную будоўлю будуць скарыстаны нават з перавышэньнем. Што-ж датычыцца буйнае будоўлі, то, пералічваючы адпаведныя аб'екты, трэба хоць кораценька спыніцца на стане дзейных фондаў.

Складовая гаспадарка райсаюзаў і ЦРК выглядае вельмі дрэнна: склады параскіданы і распылены, далёка ад іх пагрузачныя пункты і, нарэшце, іхная старасьць не ўтварае ўмоў, каб падзешавіць таварасховы. Па сутнасьці перад спажыўкаапэрацыяй стаіць неадкладная задача рэканструкцыі ўсяе складское гаспадаркі, што азначае замен цяперашніх складаў новымі. У перш пачатковым варыянце плян і меў на ўвазе гэтую мэту, але скарачэньне крыніц фінансаваньня, галоўным чынам, адбілася на скарачэньні будоўлі складаў. Сёлета будуецца склад у Віцебскім райсаюзе. Пачата канцэнтрацыя складаў у Гомельскім саюзе, на што трэба каля 170 тысяч рублёў, а ўжо сёлета затрачана каля 100 тыс. руб. Апошнія работы будуць зроблены ў 1929-30 годзе.

Таксама будуе склады Белкаапсаюз для свайго Менскага аддзяленьня па абслугоўваньню сеткі гэтай акругі. Пры складах, як у Менску, так і ў Гомлі, пабудованы памяшканьні і пад канторы, што вельмі добра для абслугоўваньня кліентуры і скарачае выдаткі.

Значыць, у галіне складовае будоўлі спажыўсыстэма сёлета абмежавалася невялікімі ўкладаньнямі.

Таксама невялікі аб'ем будоўлі ў галіне грамадзкага харчаваньня. У 1929-30 годзе намяркована будоўля сталоўняў у такіх рабочых цэнтрах: Рэчыца (рабочы пасёлак), там налічваецца ўжо каля 3.000 рабочых і там мяркуецца прамысловая будоўля. Цяпер грамадзкае харчаваньне ў гэтым горадзе мае старцоўскі выгляд. У горадзе ёсьць адна неабсталяваная сталоўка, якая ніяк ня можа здаволіць насельніцтва.

Намяркована пабудаваць сталоўку ў Віцебску, як у адным з найбольш буйных прамысловых цэнтраў БССР, дзе сетка грамадзкіх сталоўняў вельмі нездавальняючая, прымітыўная і аддаленая ад прадпрыемстваў.

Апрача таго, сёлета меркавалася пачаць будаваць фабрыку-кухню ў Менску з разрахункам, каб скончыць яе ў 1929-30 годзе.

Фактычна сыстэма будуе і сёлета скончыць толькі 2 сталоўні—у Рэчыцы і Нова Беліцы. Будоўля перанесена з Віцебска ў Гомель таму, што, па-першае, у Нова-Беліцы ў гэтым вялікая патрэба і, па-другое, Віцебскі ЦРК сёлета загружан другою будоўляю. Пачала будавацца і будзе скончана сёлета цэнтральная кухня (разьмеркавальнік) у адным з рабочых раёнаў Беларусі—Барысаве, яна будзе каштаваць 23 тысячы руб. Апрача ўсяго гэтага, адпушчана розным ЦРК на рамонт і абсталяваньне каля 25 тысяч рублёў. Усяго ўкладаньняў па грамадзкаму харчаваньню за 1928-29 год—350 тысяч рублёў.

Зразумела, ні ў якім разе нельга лічыць, што гэтая будоўля можа ў якой-небудзь ступені прэтэндаваць на адпаведны рост попыту на прадукцыю грамадзкага харчаваньня.

Попыт на прадукцыю грамадзкага харчаваньня расьце і перавышае тэмп будоўлі сталоўняў. У выніку гэтага сёлета мы маем значна пагоршаную якасьць абслугоўваньня спажыўца.

Ня так даўно хлебапячэньне вытваралася ў саматужных прадпрыемствах, дзе было вельмі паношанае і прымітыўнае абсталяваньне. Палажэньне, што існуе, не забясьпечвае ні нармальных умоў працы, ні гігіенічнага і добраякаснага прадукту. Адмысловыя ўмовы хлебнага рынку ў 1928-29 г. значна павялічылі і ускладнілі задачы спажыўкаапэрацыі ў галіне хлебаснабжэньня. Гэта больш відно было ў БССР, як рэспубліцы, што спажывае.

Пад уплывам усяго гэтага былі ўжыты ўсе захады, каб выканаць намяркованы плян будоўлі хлебазаводаў. З гэтаю мэтаю была перамешчана частка сродкаў з крамнае будоўлі на будоўлю хлебазаводаў.

Канчаюцца пачаты ў 1927-28 годзе хлебазавод у Гомлі, хлебапякарня ў Воршы, будуюцца яшчэ хлебазавод у Віцебску і пачаўся будавацца хлебазавод у Бабруйску. Сякія-такія сродкі на будоўлю хлебапякарань у дробных рабочых паселішчах адпушчаны. Намечаны плян укладаньняў у будоўлю па хлебапячэньню ў 414 тысяч рублёў, будзе мабыць, выканаы ў суме каля 400 тысяч рублёў, зьдзяйсьняючы ў поўнай мерцы пабудову запраэктаваных буйных аб'ектаў.

У пляне на 1928-29 год ня былі прадугледжаны схоўні на гародніну і спэцыяльныя крамы для работы з прадуктамі, што скора псуюцца. Аднак, гэты недахоп у пляне быў адноўлены яшчэ ўвосень урадавым асыгнаваньнем, калі БКСаюз запатрабаваў на будоўлю схоўняў на гародніну і спэцыялізаваных мясных крам 170 тысяч рублёў. Сёлета мы будуем 3 схоўні на гародніну—у Менску, Віцебску і Гомлі. Аднак, трэба сказаць, што гэтыя схоўні далёка не такія, якія трэба. Гэта толькі пачатак будоўлі, якую мы думаем працягнуць у 1929-30 годзе і на працягу тых наступных год.

Перш, як перайсьці да пляну на 1929-30 год, трэба дакрануцца тэхнічнага боку будоўлі.

Уся буйная будоўля робіцца падрадным спосабам. У якасьці падрадбыкаў бяруцца дзяржаўныя будаўнічыя арганізацыі. Падрадны спосаб трэча лічыць найбольш мэтазгодным. Будаўнічымі матар'яламі і рабочаю сілаю мы забясьпечаны. Сёлета мы дамагліся таго, што будаўнічыя арганізацыі забясьпечваюць, праўда са спазьненьнем, усю буйную будоўлю тэхнічнымі праэктамі і каштарысамі, якія разглядаюцца і сьцьверджваюцца належнымі арганізацыямі. Для тэхнічнага кіраваньня і рэгуляваньня будоўляю ў БКС арганізована тэхнічна-будаўнічае бюро, з адным сталым работнікам тэхнікам. Пры тэхнічна-будаўнічым бюро арганізована калегія з прадстаўнікоў, што зацікаўлены будоўляю і з аддзелаў, што блізка з ёю стыкаюцца.

Урэшце, трэба адзначыць слабую сувязь паміж Белкаапсаюзам і тэхнічна-будаўнічым бюро Цэнтрасаюзу. Яны не даюць сыстэме тэхнічнае дапамогі і консультацыі.

Плян на 1929-30 год па спажыўсыстэме сёлета прадстаўлен Цэнтрасаюзу і мясцовым органам сваячасова і добра распрацованы. Плян на 1929-30 год адлюстроўвае ўстаноўкі на патаненьне будоўлі і выяўляе эфэктыўнасьць будоўлі.

Плян будоўлі на 1929-30 год абмяжоўваецца такімі галінамі: хлебапячэньнем, грамадзкім харчаваньнем, крамамі і складамі. У пляне нямашака будоўлі, зьвязанае с сель.-гас. нарыхтоўкамі таму, што спажыўсыстэма ўвесь час была ў залежнасьці ад установак рэгулюючых і плянуючых органаў, што азначала адыход спажыўкаапэрацыі з рынку сельска-гаспадарчых нарыхтовак. Пастанова ЦК УсеКП(б) зусім выразна зьмяніла гэты няправільны погляд на спажыўкаапэрацыю, яна была надрукавана пасьля складаньня пляну будоўлі. Відавочна, што яшчэ давядзецца вярнуцца да гэтага пытаньня. Плян спажыўкаапэрацыі БССР павінен будзе яшчэ дапоўніцца будынкамі прамысловых прадпрыемстваў па пераапрацоўцы прадуктаў харчаваньня, што зьвязана з найбольш удасканаленым і поўным абслугоўваньнем спажыўца.

Да дадатковага праэктаваньня мы мяркуем падысьці ўвосень пры канчатковым удакладненьні пляну разьвіцьця спажыўкаапэрацыі БССР.

У 1929-30 годзе мы намнога пашыраем аб'ем будоўлі з 1 міл. 700 т. у 1928-29 годзе да 3 міл. 612 тыс. руб. у 1929-30 годзе. ПЭУЦентра-

саюзу даводзіць будоўлю да 3 міл. 800 тыс. руб., павялічваючы плян за лік крамнае будоўлі.

За лік якіх, менавіта, груп павялічваецца аб'ём будоўлі ў параўнаньні з 1928-29 годам?

| | Укладаньні ў тыс. руб. | | Рост укладаньняў у абсалютных цыфрах (тыс. руб.) | 1929-30 г. у %% да 1928-29 г. |
|---|---|---|---|---|
| | 1928-29 г. (папярэдн. весткі) | 1929-30 г. (плян) | | |
| 1. Сельскія і местач. спаж. т-вы . . | 357,5 | 1120 | 762,5 | 314 |
| у тым ліку: | | | | |
| а) крамная будоўля . . . . . . | 307,5 | 865 | 278,5 | 147 |
| б) складовая „ . . . . . . | — | 70 | 70 | — |
| в) грамадзкае харчаваньне . . . | 50 | 105 | 55 | 210 |
| г) хлебапячэньне . . . . . . . | — | 80 | 80 | — |
| 2. ЦРК (12) . . . . . . . . . . . | 1059 | 1980 | 921 | 187 |
| у тым ліку: | | | | |
| а) крамная будоўля . . . . . . | 245 | 340 | 105 | 139 |
| б) складовая „ . . . . . . | — | 220 | 220 | — |
| в) схоўні на гародніну . . . . | 70 | 210 | 140 | 300 |
| г) „ на рыбу . . . . . . | — | 25 | 25 | — |
| д) грамадзкае харчаваньне . . . | 352 | 575 | 223 | 163 |
| е) хлебапячэньне . . . . . . . | 392 | 610 | 218 | 156 |
| 3. Райсаюзы і аддз. БКС . . . . . | 179 | 292 | 113 | 163 |
| у тым ліку: | | | | |
| а) складовая будоўля . . . . . | 179 | 220 | 41 | 123 |
| б) схоўні на рыбу . . . . . . . | — | 72 | 72 | — |
| 4. Белкаапсаюз . . . . . . . . . . | 100 | 220 | 120 | 220 |
| а) дом каапэрац. асьветы . . . | — | 150 | 150 | — |
| б) склады . . . . . . . . . . . | 100 | 70 | 30 | 70 |
| 5. Разам па сыстэме . . . . . . . | 1698 | 3612 | 1914 | 213 |
| 6. Удзельная вага ўласных сродкаў у фінансава-каапэрац. будоўлі ў %% | | | | |
| а) сельскія і местач. т-вы . . . | 46,2 | 38,4 | — | — |
| б) ЦРК . . . . . . . . . . . . | 10,9 | 12,6 | — | — |
| в) Райсаюзы . . . . . . . . . . | 19,5 | 20,5 | — | — |
| г) БКС . . . . . . . . . . . . | 25 | 18,2 | — | — |
| д) Усяго па сыстэме з ФДК . . | 38,7 | 30,5 | — | — |

Гэтыя лічбы намечанага росту будоўлі па групах і паасобных зьвенчаках кажуць за тое, што асноўную масу сродкаў мы пушчаем па лініі нізавых зьвенчакоў, пераважна па рабоча-гарадзкой каапэрацыі, што натуральна выцякае з больш складанага маштабу работы апошняе. У асноўным усе ўкладаньні нікіраваны на паляпшэньне абслугоўваньня, на ўтварэньне больш удасканаленых эканамічна-бытавых форм снабжэньня і на рацыяналізацыю і паляпшэньне таварахаваньня.

Што мы будуем па паасобных групах будоўлі і па паасобных аб'ектах?

## Грамадзкае харчаваньне

| Назвы прадпрыемстваў | Месца пабудовы | Характар пабудовы | Будаўнічы сэктар | Час пабудовы: Пачатак | Час пабудовы: Канец | Агульн. каштоўн. пабуд. у тыс. руб. | У т. л. уклад. у 1929-30 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Фабрыка-кухня . . . . | Менск | Новы | ЦРК | 29-30 | 30-31 | 1103 | 400 |
| Рабочая сталоўня . . . | Віцебск | „ | „ | „ | „ | 169 | 100 |
| „ „ . . . | Бабруйск | „ | „ | „ | 29-30 | 35 | 35 |
| „ „ . . . | м. Дуброўна | „ | Сп. т-ва | „ | „ | 25 | 25 |
| Сельскія чайныя . . . . | Розныя | „ | „ | „ | „ | 80 | 80 |
| Сталоўні ў гарадох . . | „ | Дабудоўля | ЦРК | „ | „ | 40 | 40 |

Асаблівую ўвагу з пералічаных аб'ектаў заслугоўвае фабрыка-кухня, ад якое мы сёлета адмовіліся, але ў 1929-30 годзе мы павінны пачаць яе будаваць, бо гэта выклікаецца патрэбай энэргічнага разьвіцьця грамадзкага харчаваньня і нястачай і зношанасьцю цяперашняга асноўнага капіталу грамадзкага харчаваньня. Цяперашняя сетка сталоўняў Менскага ЦРК і іншых арганізацый абхоплівае ня больш 7-8 проц. насельніцтва з вялікаю перагрузкаю, а калі мы пабудуем фабрыку-кухню, дык мы абхопім ня менш 35 проц. рабочага насельніцтва. Апрача таго, такая фабрыка-кухня дасьць магчымасьць ліквідаваць цэлы рад дробных негігіенічных сталоўняў і замяніць іх буйнаю сталоўняю-рэстаранам на 3000 чалавек і арганізаваць пры паасобных прадпрыемствах разьмеркавальнікі гатовых харчоў.

Цяпер Менскі ЦРК шукае вучастку, рыхтуецца тэхнічны праект і г. д. Мяркуецца пабудова сталоўні ў адным з больш буйных цэнтраў Беларусі—Віцебску, дзе сетка прадпрыемстваў грамадзкага харчаваньня вельмі не разьвінута. У асноўным сталоўня будзе абслугоўваць толькі рабочае насельніцтва. Апрача таго, па лініі рабочага сэктару мяркуецца пабудаваць сталоўню ў Бабруйску. Там акрвыканком на гэта дае гатовы, зусім прыдатны будынак.

Па лініі сельскага сэктару намяркована, праўда ў сьціплых памерах, пабудаваць чайныя-закусачныя. Намяркована пабудаваць у 1929-30 годзе 6 чайных. Замест 5 сёлетніх чайных, сельская сетка к канцу 1929-30 г. будзе мець 11 культурных чайных.

Пашыраецца будоўля прадпрыемстваў хлебапякарнае прамысловасьці, пераважна ў гарадох з рабочым насельніцтвам. Разам з тым у 1929-30 г. мяркуецца таксама пабудаваць дробныя хлебапякарні ў мястэчковых пунктах для абслугоўваньня тамтэйшага насельніцтва.

| Назва прадпрыемстваў | Месца пабудовы | Характар пабудовы | Будаўнічы сэктар | Вытворчая магутнасьць у тонах | Час пабудовы: Пачатак | Час пабудовы: Канец | Агульн. каштоўн. пабуд. у тыс. руб. | У т. л. уклад. у 1929-30 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Хлебазавод . . . | Віцебск | Новы | ЦРК | 30 | 28-29 | 29-30 | 350 | 100 |
| „ . . . | Бабруйск | „ | „ | 30 | „ | „ | 380 | 230 |
| Хлебапякарня . . | Барысаў | „ | „ | 15 | „ | 30-31 | 135 | 80 |
| „ . . | Полацак | „ | „ | 15 | „ | „ | 135 | 70 |
| „ . . | Добруш | „ | „ | 5 | „ | 29-30 | 30 | 30 |
| Хлебазавод . . . | Менск | Дабудоўля | „ | — | „ | „ | 60 | 60 |
| „ . . . | Магілеў | „ | „ | — | „ | „ | 30 | 30 |
| „ . . . | Розн. гар. | Кап. рам. | „ | — | „ | „ | 10 | 10 |
| Дробныя хлебапякарні . . . . | Дробн. гар. | Прыбудоўка | Сельск. Сп. т-вы | — | „ | „ | 80 | 80 |

Такім чынам, пабудоваю намеркаваных аб'ектаў па хлебапячэньню будуць забясьпечаны ўсе акруговыя гарады хлебазаводамі. Далейшая будоўля можа пойдзе па лініі дабудоўлі і мэханізацыі прадпрыемстваў, так што з пашырэньнем задач рабочае каапэрацыі ў галіне снабжэньня насельніцтва печаным хлебам, тыя прадпрыемствы, што існуюць, будуць недастатковымі. Часткова гэта работа ўжо пачнецца з наступнага году (Менск і Магілеў).

Пераходзячы да гандлёва-тэхнічнае будоўлі, трэба адзначыць павялічэньне аб'ёму пабудовы складовых памяшканьняў, што зьвязаны выключна, каб снабжаць сыстэму. Можна думаць, што склады, якія праэктуюцца, яшчэ ня вырашаюць вастрыні праблемы складовае гаспадаркі сыстэмы. На жаль, мы яшчэ ня маем вучоту дзейных складаў сыстэмы, не знайшлі яшчэ мэтадалёгіі, каб азначаць патрэбы ў складовай плошчы, выходзячы з рознастайнасьці таварнага асартымэнту. Праэктуючы паасобныя аб'екты, мы лічыліся з заяўкамі арганізацый і часткова з агульнымі ведамі паасобных раёнаў. Агульны аб'ём будоўлі складаў мы азначылі ў 744 тыс., з якіх пераходзіць на будоўлю на 1930-31 год—70 тыс. руб., а з 1929-30г.—94 тыс. руб. Такім чынам, памер укладаньняў у складовую будоўлю плянуемага году складае 580 тыс руб., з якіх на рабочую каапэрацыю прыпадае 220 тыс. руб., на сельскі сэктар—360 тыс. руб. У сыстэме гэтае будоўлі прадугледжваецца пабудова раённых складаў для найбольш буйных спажыўтаварыстваў, якія месьцяцца пры вадзяных ці чыгункова-дарожных пагрузачных пунктах у адпаведнасьці з транспартам у нізавы сельскі зьвянчак.

Мяркуецца пабудаваць склады спэцыяльнага прызначэньня (сховішча на гародніну) у 5-ці больш буйных гарадох Беларусі: у Менску, у Гомлі, у Бабруйску, у Воршы і ў Магілеве. Гэта будзе каштаваць 210 тыс. руб. Будуць будавацца і скляпы на рыбу ёмістасьцю ў 120 вагонаў і будуць каштаваць 97 тысяч рублёў.

Урэшце трэба спыніцца на пляне будоўлі крам. Хуткае згортваньне прыватніка і скарыстаньне ў мінулым усяго лепшага, што ад яго засталося, прымушае фарсаваць павялічэньне розьнічнае сеткі. Пашырэньне работы з прадуктамі, што хутка псуюцца, асабліва ў гарадох, выклікае вострую патрэбу ў спэцыяльных, да гэтага прыстасаваных крамах, якіх у Беларусі вельмі мала. Пастаўленая перад такімі задачамі, гэта значыць, колькасным пашырэньнем сеткі, каб замясьціць выціснутага прыватніка і прыстасаваць гандлёвую сетку да новых задач спажыўкаапэрацыі, пры вельмі недастатковых сродках для гэтае будоўлі,—спажыўкаапэрацыя вымушана ў будучым годзе ісьці па лініі будоўлі прасьцейшага тыпу крам і будак.

Якім чынам мяркуецца пакрыць новаю будоўляю запраэктаваны прырост сеткі па БССР, пакажа наступная табліца:

**Па гарадох**

| Характар гандлёвых пунктаў | Колькасьць гандлёв. пунктаў | |
|---|---|---|
| | Агульны прырост, што намячаецца кантрольн. лічбамі | Пакрыцьцё намячаемага прыросту новаю будоўляю |
| Унівэрмагаў | 2 | 2 |
| Магазынаў мешанага асартымэнту | 10 | 5 |
| „ спэц. прад. | 20 | 14 |
| „ „ прамтавараў | 9 | 5 |
| Будак | 50 | 100 |
| Палатак і цялежак розных | 96 | |

Што-ж датычыцца сельскага сэктару, дык намечаны прырост у 318 крам мяркуецца пакрыць у 280 крам новае будоўлі. Зразумела, што новае будоўлі ні ў якім выпадку ня хопіць. Праэктуючы пяцігадовы плян разьвіцьця крамнае сеткі ў сельскім сэктары, мы прадугледзілі ня толькі каб пакрыць увесь прырост сеткі новаю будоўляю, але прадугледзелі і тое, што каля 20 проц. сеткі, што цяпер існуе, выпадзе. Намеркаваная будоўля крам у мястэчках і сёлах разьвіваецца такім парадкам: будак—50, дробных унівэрмагаў—18, прадуктовых крам—6, кніжных і папяровых—25, розных крам—180. Такім чынам, больш за ўсё прыпадае будоўлі на розныя крамы, як на больш прыдатныя ва ўмовах беларускае вёскі.

Коратка можна сказаць пра намяркованую будоўлю дому каапэрацыйнае асьветы ў Менску. За апошні год БКСаюз разьвінуў вялікую работу па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў для спажыўкаапэрацыі. Усё-ж такі гэтую работу ў будучым трэба будзе разьвінуць яшчэ больш. Аднак, зважаючы на тое, што Менск вельмі перагружаны, дык нельга ўтварыць нармальных умоў, каб разьмясьціць курсантаў. Таксама няма ўмоў і для сыстэматычных заняткаў. На адны гасьцініцы штогод траціцца каля 40 тысяч рублёў. Значыць, адны толькі страты на курсантаў у працягу 5-ці год могуць пакрыць каштоўнасьць будынку. Будынак разьлічан на 100 чалавек у сярэднім, там-жа будуць рабочыя габінэты, аўдыторыі, бібліотэка і г. д. У гэтым доме мы зрабілі-б каапэрацыйны музэй. Будоўля разьлічана на 2 гады. Трэба спыніцца на пакрыцьці затрат. Калі плян быў у дзяржпляне, дык ён быў зацьверджаны ў суме—2.900 тыс. руб., з разьлікам на ўласныя сродкі сыстэмы разам з ФДК у 1.100 тыс. руб. (акр.), а рэшта—на розныя крыніцы па доўгатэрміновым крэдытаваньні. Выходзячы з мінімальнасьці пляну, які скараціцца ўжо ня можа, спажыўкаапэрацыя ставіць пытаньне, каб ёй дазволілі прыцягнуць сродкі на будоўлю ад насельніцтва, шляхам спэцыяльных налічэньняў памерам, прыблізна, каля $^1/_2$% да звароту.

Урэшце трэба адзначыць, што аб'ём капітальнае будоўлі, які пашыраецца, патрабуе больш выразнае арганізацыйна-тэхнічнай пастаноўкі. Плянава эканамічнае і тэхнічнае абгрунтаваньне аб'ектаў, што будуюцца, павінна быць пастаўлена на належную вышыню. Будаўнічыя арганізацыі, павінны паклапаціцца, каб неадкладна паскладаць тэхнічныя праэкты і зарысы новае будоўлі і пераабсталяваньня.

Як вельмі актуальную і неадкладную задачу застаецца ўвесьці ў сфэру рэгуляваньня новаю будоўляю і капітальным пераабсталяваньнем крамнае гаспадаркі як у гарадох, так і ў сёлах. Гэтага патрабуюць інтарэсы правільнага разьмяшчэньня крамнае сеткі і насаджэньне такога тэхна-эканамічнага тыпу гандлёвага прадпрыемства, якое-б забясьпечыла высокую якасьць абслугоўваньня спажыўца. Тэхнічна-будаўнічаму бюро БКС трэба ў сувязі з гэтым заўчасна распрацаваць тыповыя стандарты крам, прыстасоўваючы іх да запатрабаваньняў паасобных раёнаў. Трэба вышукаць найбольш танныя формы будоўлі, гэтая задача астаецца і ў далейшым першачарговаю задачаю сыстэмы.

**Таварышы каапэратары! абменьвайцеся вопытам свае працы на старонках часопісі „Каапэрацыя БССР“**

Е. Руткоўскі

# Пра вырабы з саломы

Увосень 1928 году нам даводзілася гутарыць з некаторымі асобамі з Белкустпрамсаюзу і ВСНГ па пытаньні аб магчымасьці разгортваньня ў БССР з саломы розных вырабаў шырокага спажываньня і асабліва ў галіне саломапляценьня.

У той-жа час намі была выказана думка і аб тым, што ў БССР ёсьць грунт, абставіны і ўмовы, каб разгарнуць вытворчасьці саломенных капялюшоў і розных іншых рэчаў, як у сыстэме саматужна-прамысловае каапэрацыі, так і ў сыстэме фабрычнае вытворчасьці.

Аднак, паводле нашае прэсы, на вялікі жаль, да гэтага часу гэты від прамысловасьці яшчэ не знайшоў сабе месца ня толькі сярод розных галін прамысловасьці аграмагжанага сэктару, але і належнае ўвагі з боку названых арганізацый. Ды гэта і зразумела, бо нам даводзілася сустракаць сярод асоб, што маюць дачыненьне да спраў арганізацыі прамысловасьці, і такіх скэптыкаў, якія лічаць, што справа разгортваньня ў БССР ў тэй альбо іншай ступені прамысловасьці ў галіне саломапляценьня і вытворчасьці саломеных вырабаў ня мае пад сабою грунту і па сваім значэньні ня варта таго, каб зьвяртаць на яе ўвагу.

Канстатуючы факт амаль што поўнае адсутнасьці ў БССР у сыстеме аграмаджанага сэктару прадпрыемстваў па саломапляценьню і вырабу розных саломеных рэчаў, мы ні ў якім разе ня можам згадзіцца з тэю думкаю, што гэты від прамысловасьці ва ўмовах БССР ня мае падстаў для разьвітку. Наадварот, мы лічылі і лічым, што ў БССР ёсьць і спагадныя ўмовы і значная патрэба, каб разгарнуць гэты від прамысловасьці.

Да ліку такіх умоў можна далучыць наступнае: а) наяўнасьць сыравіны, якая можа быць ужыта для вытворчых мэтаў у галіне саломапляценьня і прыгатаваньня розных саломеных рэчаў; б) наяўнасьць рабочых рук наогул, якія могуць быць накіраваны ў гэтую галіну прамысловасьці, і ў прыватнасьці—рабочых рук, якія ўжо маюць звычкі і знаёмства з некаторымі тэхнічнымі працэсамі як у самой вытворчасьці саломеных вырабаў, напрыклад, капялюшоў, так і ў справах нарыхтоўкі сыравіны—саломы; в) наяўнасьць практыкі з даваеннага часу арганізацыі на тэрыторыі сучаснае БССР саломапляценьня як саматужнае прамысловасьці (Буда-Кашалеўскі раён ды і іншыя месцы ў розных кутках БССР; так яшчэ ў 1908 г. на Магілеўшчыне было зарэгістравана саматужнікаў у галіне саломапляценьня 57 асоб[1]); г) рыначныя ўмовы, якія, гледзячы па апошніх гадох, даюць значны попыт на розныя саломеныя вырабы і асабліва плеценыя вырабы на гарадзкім рынку (жаночыя капялюшы, кошыкі), а таксама і ў сельскіх мясцовасьцях.

Пры вызначных умовах разгортваньне ў БССР вытворчасьці па саломапляценьні, на нашу думку, павінна пайсьці ў двох напрамках: папершае, як саматужная прамысловасьць у сыстэме саматужна-прамысловае каапэрацыі; у гэтым выпадку разгортваньне саломапляценьня зможа дасягнуць значных памераў, захапіўшы, прыблізна, наступныя вытворчыя працэсы: нарыхтоўку сыравіны—саломы; яе апрацоўку ў розных відах і ў тым ліку натуральную (на сонцы) адбелку; выраб пляцёнак і, урэшце, прыгатаваньне саміх вырабаў, напрыклад, капялюшоў, кошыкаў, кайстрак і г. д.

[1]) И. М. Мусерский. О состоянии в Могилевской губ. кустарной промышленности и о необходимости принятия мер к ее поднятию. Изд. 1910—Могилев. губ.

Па-другое, як фабрычная вытворчасьць у галіне прадпрыемстваў, непасрэдна падпарадкаваных органам ВСНГ; тут можа быць разгорнута хэмічная апрацоўка і штучная фарбоўка саломы і пляцёнак, якія былі нарыхтаваны ў сыстэме саматужнае прамысловасьці, а таксама і выраб на шырокі рынак гатовых фабрыкатаў—розных вырабаў з саломы (капялюшоў, кайстрак, гузікаў і г. д.).

Памеры дадзенага артыкулу не дазваляюць нам падрабязна спыніцца на арганізацыйных і тэхнічна-эканамічных пытаньнях, зьвязанных з названым відам прамысловасьці. Аднак, мы лічым, што важнасьць узьнятага намі пытаньня дасьць нам магчымасьць зьвярнуцца і да гэтых бакоў справы ў наступных нумарох часопісу.

У сучасны-ж момант, мы, ставячы гэтае пытаньне на абгаварэньне шырокіх колаў савецкай грамдзкасьці, робім націск на тую частку гэтага пытаньня, якое тычыцца саматужна-прамысловае каапэрацыі.

Справа ў тым, што высунутая намі галіна прамысловасьці вельмі працаёмістая, і асабліва ў пачатковай стадыі яе вытворчых працэсаў, што ў нашых умовах аграрнае перанасялёнасьці робіць пастаноўку гэтага пытаньня зусім актуальнай, асабліва пры пастаноўцы пытаньня аб пашырэньні саматужнае прамысловасьці ў сельскіх мясцовасьцях.

Каб мець магчымасьць хоць прыблізна меркаваць аб тых памерах, якія можа заняць вызначаная галіна прамысловасьці ў гаспадарчым жыцьці БССР, мы лічым неабходным спаслацца на пару-другую прыкладаў.

Першае—яшчэ ў 1901 годзе ў Мікалаеўскім павеце, Самарскай губ., вытворчасьцю „из пшеничной и ржаной соломы было занято 8 тыс. кустарей, изготовляющих шляпы, сумки, коробки и проч. [1]).

Другое—паводле перапісу 1926 году па Нямрэспубліцы [2]) лічылася саматужнікаў і рамесьнікаў 35.439 асоб, з якіх у каапэрацыйнай сетцы знаходзілася да 36,7 проц. Пры чым, прамыслоўцаў па саломапляценьню налічвалася да 2`07 чал., з якіх у каапэрацыйную сетку ўваходзіла 1080 асоб, альбо 8 проц. ад усіх каапэраваных прамыслоўцаў у галіне саматужнае і рамесьніцкае прамысловасьці.

Трэцяе—у даваенны час на тэрыторыі БССР існавала саломапляценьне ня толькі як вытворчасьць па самаснабжэньню сялянскіх двароў рознымі саломенымі вырабамі, але і як саматужна-рамесьніцкая прамысловасьць. Нам самім даводзілася назіраць у 1910 годзе вытворчасьць саломеных капялюшоў на гарадзкі рынак у даволі значных памерах у раёне ст. Буда-Кашалеўская Зах. чыгўнак. Ёсьць весткі і аб тым, што саломапляценьне, як промысел, існавала і ў шмат якіх мясцох, як тае-ж Магілеўскай, таксама Менскай і Віцебскай губэрняў.

Чацьвертае—ёсьць весткі і аб тым, што ў даваенны час у розных краінах бывалешняе Расіі існавалі даволі значныя фабрыкі па выrabу капялюшоў і ў тым ліку саломеных капялюшоў. Напрыклад, такія фабрыкі былі ў Ленінградзе, Маскве, Кіеве, Варшаве дый у шмат іншых гарадох, пры чым, у цэнтры капялюшовае вытворчасьці—Варшаве—існавала дзьве фабрыкі па хэмічнай апрацоўцы саломеных істужак.

Улічваючы адзначную практыку з мінулага, а таксама і сучаснага з другіх краін (Нямрэспублікі) і прымаючы пад увагу, што ў сучаснасьці на тэрыторыі БССР вытворчасьць саломеных капялюшоў і наогул саломапляценьне не зьяўляецца нечым новым (яно існуе ў розных кутках БССР,

[1]) А. Д. Погрузов. Кустарная промышленность России, ее значение, нужды и возможное будущее. С.-Петербург. 1901 г.

[2] Д. Э Кустарные промыслы и промкооперация Немреспублики. Журнал „Вестник промысловой кооперации“ за 1928 г., № 9.

як хатняя і рамесьніцкая вытворчасьць),—мы ставім пытаньне не аб утварэньні зусім новага віду прамысловасьці, а аб аграмаджаньні існуючай вытворчасьці паасобных вытворцаў, гэта значыца, аб арганізацыі саломапляценьня ў сыстэме саматужна-промысловай каапэрацыі. Бязумоўна, што адначасова з мерапрыемствамі арганізацыйнага парадку тут давядзецца ўжыць шэраг захадаў і аб палепшаньні тэхнікі вытворчасьці з тым, каб саломеныя вырабы маглі пайсьці і на гарадзкі рынак.

У сучасны момант Белсампрамсаюз, адчыняючы ў гор. Менску цэнтральны магазын мастацкіх вырабаў, выставіў у вітрыне гэтага магазыну на паказ сярод іншых мастацкіх рэчаў кавалак саломенай страхі. Можа на погляд тых, хто выстаўляў у вітрыне—экспанаты лепшых мастацкіх вырабаў і здаецца, што пародыя на сапраўдную саломеную страху і зьяўляецца мастацкім творам. Каму як. Але мы, як ні прыглядаліся да гэтага экспанату, а мастацкасьці ў ім ня бачылі.

І вось, прапануючы Белсампрамсаюзу і ВСНГ зьвярнуць увагу на арганізацыю ў БССР вытворчасьці па вырабу розных саломеных рэчаў, і асабліва жаночых і мужчынскіх капялюшоў, мы спадзяёмся ў далейшым бачыць у вітрынах магазынаў гэтыя вырабы не на фоне саломеных стрэх старое вёскі, а на новым фоне нашага жыцьця—на фоне калектыўнае вёскі.

Гэтага фону для разьмяшчэньня сапраўды мастацкіх вырабаў мы чакаем, мы чакаем таксама для новага фону не саломеных стрэх, а сапраўды мастацкіх рэчаў.

Ад рэдакцыі. Рэдакцыя лічыць, што пытаньне, закранутае т. Рутkоўскім цікавае, і просіць чытачоў і органы, якіх гэта тычыцца, падзяліцца сваімі думкамі.

**Кулак імкнецца пашкодзіць нашай сяўбе і калектывізацыі. Але кулацкія вылазкі нас не палохаюць. Бедната і серадднякі аб‘яднаюцца ў калгасы, пашыраюць пасевы і гэтым б‘юць па кулаку. Каб дапамагчы сяўбе і росту калектывізацыі, спажывецкая каапэрацыя павінна палепшыць абслугоўваньне калгасаў**

# ПРАКТЫКА НАШАЕ ПРАЦЫ

Г. Ф.

## Практыка збору паю

У галіне паявога напластаваньня Менскі ЦРК за леташні гаспадарчы год мае нішто сабе посьпехі. Кантрольнае заданьне Белрабсэкцыі, што дадзена Менскаму ЦРК сабраць паявых узносаў 308 тыс., будзе выканана мабыць з невялікім перавялічэньнем.

За 11 месяцаў 1928-29 гаспадарчага году ўжо сабрана паявых сродкаў 277 тысяч рублёў, што складае 87 процантаў гадавога заданьня. З гэтае сумы частка сабрана крамамі, рэалізацыяй паявых марак, а рэшта—каапэрацыйным актывам.

З наступленьнем новага гаспадарчага году пытаньне, каб прыцягнуць сродкі пайнікаў у каапэрацыйную будоўлю, будзе таксама стаяць у цэнтры ўвагі, як і на працягу 1928-29 г.

У гэтым допісе я думаю падзяліцца тымі мэтадамі збору паявых сродкаў, якія практыкаваліся Менскім ЦРК і яго каапэрацыйным актывам.

Перш за ўсё, па пытаньні паявога напластаваньня, на працягу ўсяго году вялася шырокая растлумачальная работа. Задача аб паявым напластаваньні адлюстроўвалася ва ўсіх формах каапэрацыйнае прапаганды: гаварылася на справаздачных сходах, на сходах пытаньняў і адказаў, па клюбах, па прадпрыемствах, на ўсіх сходах каапэрацыйнага актыву, на сэкцыях упаўнаважаных, у каапэрацыйных школах, на курсах, гурткох і г. д. Каб заахвоціць, дык быў зроблены конкурс на лепшую каапэрацыйную камісію і ўпаўнаважаных па збору паёў. Па пастанове сходу ўпаўнаважаных, усе дэфіцытныя тавары і тавары па пазыцы (апрача хлеба і дроў) адпускаліся толькі тым пайнікам, якія сваячасова аддавалі доўг. Пазычалася толькі акуратным платнікам паю. На кожны квартал праўленьне ЦРК давала кантрольныя лічбы па збору паю для кожнае каапэрацыйнае камісіі і крамам ЦРК. Праз стол пайнікаў складаліся сьпіскі запазычанасьці на кожны калектыў. Па выкананьні кантрольных лічбаў па крамах складаліся штомесячныя падрахункі, дзе паказваліся сумы заданьня і выкананьня. Была спрошчана тэхніка выдачы з касы паявых марак, якія даваліся ня толькі крамам, але і паасобным упаўнаважаным і каапэрацыйным камісіям. На буйныя прадпрыемствы ў дні палучак пасылаліся спэцыяльныя зьбіральнікі. Усім прадпрыемствам ЦРК і калектывам пайнікаў былі даны табліцы растэрміноўкі ўзносаў паю. Гэтыя мерапрыемствы рабіліся апаратам ЦРК.

Ня малую работу па збору паю прарабіў і каапэрацыйны актыў сваімі ўпаўнаважанымі, каап. камісіямі і каап. арганізатарам, якіх агулам налічвалася больш тысячы чалавек. Якія-ж мэтады ўжываліся па збору паю каапэрацыйным актывам?

Найлепш зьбіраліся паі ў тых калектывах, дзе каапэр. актыў меў дакладны вучот пайнікаў, дзе было паказана прозьвішча пайніка, нумар яго каапэрацыйнае кніжкі, памер зарплаты і графы з паметкамі штомесячнага ўзносу паю. У такіх выпадках каап. актыву давалася магчымасьць скрозь сачыць за станам паю ў сваім калектыве, напамінаючы аб уплаце неакуратным платнікам. Кантроль-жа складаньнем гэтакіх сьпіскаў праўленьне ЦРК зьдзяйсьняла інструктыўнымі абсьледваньнямі і чарговаю праверкаю пайнікаў, якія атрымоўвалі дэфіцытныя тавары. Гэтыя праверкі рабіліся паквартальна.

Практыка паказала, што са складу каапэр. актыву трэба вылучаць вядомага чалавека, які-б адказваў за збор паю, а яму на дапамогу вызначаць па цэхах, па аддзелах зьбіральнікаў.

Па многіх калектывах быў устаноўлены цьвёрды парадак, каб пайнікі, што цалкам не заплацілі паю, давалі свае кніжкі на прагляд. Каап. актыў быў абавязан зьбіраць паявыя ўзносы па прадпрыемствах і здаваць іх у стол пайнікаў. Для гэтага былі вызначаны вядомыя гадзіны прыйму паявых узносаў ад каап. актыву.

У некаторых прадпрыемствах ужывалася сыстэма такая: вывешваліся сьпіскі пайнікаў, дзе былі паказаны кантрольныя лічбы ўплаты паявых узносаў па месяцах. Такім чынам, пайнік меў магчымасьць бачыць, колькі за ім лічыцца доўгу. Апраўдаўся і мэтад дзяжурства членаў каап. камісіі па прадпрыемствах для збору паёў.

У большасьці калектываў ужываўся мэтад найбольш пашыранага збору ў часе выдачы зарплаты і мэтад папярэдняга апытаньня індывідуальна кожнага пайніка за некалькі дзён да палучкі. Гэта рабілася для таго, каб мець магчымасьць вылічыць вядомую суму паявое нядоімкі. Пры чым па гэтых сьпісках, пры выдачы зарплаты зьбіраліся паі непасрэдна каап. актывам, або са згодаю пайнікаў, гэтыя сьпіскі перадаваліся раздатнікам, каб пасьля ўтрымаць.

Ня дрэнны і мэтад вывешваньня іменных сьпіскаў перад палучкаю, дзе паказана, колькі за кім лічыцца доўгу.

Жыцьцёвым зьяўляецца і мэтад спаборніцтва (праз насьценгазэту вывешваньне сьпіскаў), дзе паказваліся акуратныя і неакуратныя платнікі.

З посьпехам ужываліся мэтады індывідуальнае апрацоўкі, або пасылкі спэцыяльных лістоў, дзе напаміналася не забыць тэрмінова заплаціць пай. Талёны па прадпрыемствах на дэфіцытны тавар і пазыку выдаваліся толькі пайнікам, якія ня маюць за сабою доўгу. Памагае спосаб вывешваньня абвестак па прадпрыемствах пра чарговыя раздачы дэфіцытных тавараў па крамах, дзе паказана, што тавар будзе давацца толькі тым пайнікам, у якіх нямашака паявога доўгу. У такіх выпадках пайнікі, дзякуючы таму, што былі папярэджаны, змаглі і аддаваць доўг і браць тавар. За апошні час, калі ўзялі дыф. пай, дык часта бываюць выпадкі, што пай аддаецца калектыўна. У такіх выпадках адміністрацыя прадпрыемства выдае ЦРК вэксалі на сумы доўгу паю па ўсім калектыве, ЦРК робіць адзнакі аб выплаце паю ў каапэрацыйных кніжках пайнікаў, а пасьля адміністрацыяй пры выдачы зарплаты з пайнікаў утрымоўваецца роўнымі часткамі ў тэрміны, узгадніўшы з рабочымі. Гэты мэтад цяпер ужываецца ў парадку сацыялістычнага спаборніцтва паміж каапэрацыйнымі камісіямі.

---

**Сяргей Ладысёў**

# Як яна ёсьць

(*Магілеўская акруга*)

Выдзяленьне малочна-жывёлаводчаскае каапэрацыі з унівэрсальнае с.-г. каапэрацыі ў самастойны саюз спрыяла лепшаму разьвіцьцю і ўзмацненьню мал.-жыв. каапэрацыі, у выніку чаго ёсьць значныя дасягненьні, а менавіта: пашырылася і ўзбуйнілася сетка мал.-жыв. таварыстваў на 50 проц. (у 1927-28 г. таварыстваў па акрузе налічвалася 42, а на 1 жніўня 1929 г.—63), зьліўных пунктаў на 700 проц. (на 1/X-28 г. было 28, а на 1/VIII-29 г.—64), аддзяленьняў на 200 проц. (на 1/X-28 г. было 3, а на 1/VIII-29 г.—9); каапэраваньне гаспадарак павялічылася з 6225 на 1/X-28 г. да 12500 на 1/VIII-29 г., альбо на 101,4 проц.; паявы капітал павялічыўся з 20980 р. на 1/X-28 г. да 56659 р. на 1 жніўня 1929 г., альбо на 146 проц.,

выпрацоўка прадукцыі ў параўнаньні з леташнім годам павялічылася па маслу на 32,7 проц. і па сыру на 61,6 проц., і колькасьць злучных пунктаў з 40 на 1 кастрычніка 1928 г. павялічылася да 76 на 1 VIII-29 г., альбо на 90 проц.

Поруч з такімі дасягненьнямі ёсьць усё-ж такі і недахопы. І пра іх трэба больш пагаманіць, каб зьвярнуць на іх увагу, каб зьнішчыць.

Рост мал.-жыв. каапэрацыі ідзе марудным тэмпам, бо шэраг раёнаў, як Хоцімскі, Кармянскі, Касьцюковіцкі, Прапойскі і Чырвонапольскі, яшчэ зусім не ахоплены сыстэмаю мал.-жыв. каапэрацыі. З боку райвыканкомаў ня створана грамадзкая думка навокал мал. жыв. каапэрацыі, і ў выніку— апошняя не заняла патрэбнага месца ў мерапрыемствах па палепшаньню сельскае гаспадаркі. Трэба будзе малжыўсаюзу і райвыканкомам падумаць, каб пашырыць гэтую каапэрацыю на падставе пяцігадовага пляну, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на тыя раёны, якія зусім не ахоплены малжыўкаапэрацыяй.

Ня лепш і з каапэраваньнем бядняцкіх гаспадарак (каапэравана 26 проц. замест 35 проц) і не скарыстана 26 проц. фонду каапэраваньня беднаты, у гэтым напрамку таксама месцам патрэбна разварушыцца і давесьці каапэраваньне бядняцкіх гаспадарак у сыстэме мал.-жыв. каапэрацыі да 35 проц. ад агульнага ліку каапэраваных гаспадарак, поўнасьцю скарыстаўшы фонд каапэраваньня беднаты.

Ня гледзячы на ўжытыя захады пры правядзеньні перавыбарчае кампаніі па сетцы да ачышчэньня складу членаў таварыстваў і кіруючых органаў ад сацыяльна-чужога элемэнту, усё-ж праца па выкананьні гэтых мерапрыемстваў праведзена недастаткова, і кіруючыя органы таварыстваў па сацыяльнаму складу і працаздольнасьці добра не падабраны. Тук таксама патрэбна акр. мал.-жыв. саюзу бязупынна і рашуча праводзіць чыстку, запаўняючы вольныя месцы беднатою.

Кепска стаіць справа з каапэраваньнем жанчын: заданьне выканана толькі на 17 проц. (2049 жанчын), і не пераведзены 2 таварыствы на пераважна жаночае сяброўства (заданьне было на 6 т-ваў, а перавялі толькі 4). У далейшай працы на гэтыя моманты трэба будзе зьвярнуць больш сур'ёзную ўвагу, уцягваючы адначасова ў кіруючую працу пайшчыц-батрачак, бяднячак і сераднячак.

Калі казаць аб калгасах, то і тут слаба праводзілася праца па іх абслугоўваньню і ўцягненьню апошніх у сыстэму мал.-жыв. каапэрацыі. Неабходна калгассаюзу і мал.-жыв. саюзу ўжыць захады да больш лепшага абслугоўваньня і каапэраваньня калектыўных гаспадарак па лініі жывёлагадоўлі і малочнае справы,праводзячы адначасна поўны збыт праз малочна-жывёлаводчаскі саюз усіх малочна-жывёлаводчаскіх прадуктаў калгасаў.

Нельга сказаць, што добра стаіць справа і з сваячасовым забесьпячэньнем належным малочным інвэнтаром (сэпаратарамі, маслабойкамі, малакамерамі і інш. матар'яламі і прыпасамі малочнай вытворчасьці, пэргамэнт, соль і інш.). У гэтай справе ёсьць некаторыя хібы, што вядома дрэнна адбіваецца на вытворчай рабоце малочна-жывёлаводчаскай каапэрацыі.

Недастаткова выканан плян забесьпячэньня канцэнтраванымі кармамі (па макусе выканана на 40 проц. і высеўках—на 38,5 проц.).

Слаба праводзілася работа па збору малака ад пайшчыкаў, дзякуючы слабай і недастатковай арганізацыі зьліўных пунктаў, а таксама не зьвярталася ўвага на якасьць здаваемага малака. У наступным новым гаспадарчым годзе гэтыя недахопы трэба будзе ўлічыць і ўжыць усе захады да таго, каб іх канчаткова зьнішчыць.

Магілеўскаму мал.-жыв. саюзу і акрземаддзелу патрэбна больш рашуча разгарнуць практычную агрыкультурную працу ў т-вах як па жывёлагадоўлі, а таксама і кормаздабываньню шляхам утварэньня злучных пунктаў,

кантрактацыі маладняка, паляпшэньня скотных хлявоў, пашырэньня пасеваў кораньплодаў, кармавых траў, паляпшэньня сенажаці і сіласаваньня кармоў.

Трэба ў мэтах пасіленьня разгортваньня культурнае працы сярод членаў т-ваў мал.-жыв. саюзу выпрацаваць канкрэтны плян культпрацы і няўхільна яго праводзіць у жыцьцё, пэрыодычна правяраючы ступень яго выкананьня, шляхам заслухоўваньня справаздач адпаведных органаў і асоб, што працуюць у гэтай галіне.

Акруговы мал.-жыв. саюз павінен паклапаціцца аб поўным спагнаньні паявых узносаў, асабліва з заможнае часткі гаспадарак, пасіліць кіраваньне працаю мал.-жыв. і птушкаводных т-ваў з поўным захаваньнем клясавае лініі, увязваючы ўсю гэту працу з райвыканкомамі, а апошнім, з свайго боку, мець сталы нагляд за становішчам і разьвіцьцём гэтае каапэрацыі, заслухоўваючы на сваіх пасяджэньнях прэзыдыумаў адпаведныя справаздачы.

У сувязі з тым, што нарыхтоўка мал.-жыв. прадуктаў з сыстэмы с.-г. каапэрацыі перадаецца ў сыстэму мал.-жыв. каапэрацыі, акрсельсаюзу і мал.-жыв. саюзу, трэба ўжо прыступіць да паступовае перадачы гэтых відаў прадуктаў мал.-жыв. каапэрацыі.

Акрфінаддзел, а таксама і райвыканкомы павінны прасачыць за дачаю ільгот па с.-г. падатку членам мал.-жыв. т-ваў, бо маюць месца выпадкі, калі сельскія саветы ня выконваюць дэкрэту аб прадастаўленьні ільгот па с.-г. падатку членам памянёнае каапэрацыі.

Вось, усё тое, што можна было сказаць аб станоўчых і адмоўных бакох у працы Магілеўскага мал.-жыв саюзу.

Трэба спадзявацца, што ў новым гаспадарчым годзе гэты від каапэрацыі выйдзе з больш лепшымі вынікамі, як ён вышаў у гэтым гаспадарчым годзе.

Ня лішне будзе, калі Магілеўшчына наладзіць і сацыялістычнае спаборніцтва на лепшы раён у галіне разьвіцьця мал.-жыв. каапэрацыі, а разгарнуць працу ў гэтым напрамку ёсьць, дзе вось узяць хоць-бы Шклоўскі, Быхаўскі, Клімавіцкі і інш. раёны, ды ці толькі гэтыя раёны трэба браць за аснову. Трэба разгортваць мал.-жыв. каапэрацыю ня толькі ў паасобных, а і ў кожным раёне, у кожным сельсавеце і ў кожнай вёсцы, толькі пры такіх умовах можна чакаць больш буйных вынікаў, як гэта ёсьць у Магілеўшчыне на сёньняшні дзень.

---

**Г. Фаламетаў**

# Добры пачатак

Праведзеная летась кампанія па барацьбе за цьвярозасьць на заўсёды выціснула з асартыманту Менскага ЦРК адзін прадмет. Над продажам гарэлкі быў пастаўлен крыж. Яшчэ і раней на многіх сходах рабочыя пайнікі гаварылі і рабілі прапановы, каб замест продажу гарэлкі арганізаваць для пайнікаў продаж кнігі. Асабліва завастралі гэтае пытаньне работніцы і жонкі рабочых. Аднак, апэрацыйныя работнікі ЦРК марудна разгойдваліся і асьцярожна падыходзілі да гэтае прапановы. Пытаньні „рэнтабэльнасьці“, небясьпека затаварваньня ў гандлі кнігаю, неабходнасьць вялікіх сродкаў на гэтую справу служылі аргумэнтам супроць трэбаваньня пайнікаў. Разуменьне: „кніга не селядзец“, з гандлем кнігі можна, моў, і пачакаць,—і да гэтага часу яшчэ моцна сядзіць у галовах некаторых

работнікаў апэрацыйнага аддзелу. Задачы каапэрацыі, каб здавальняць і культурныя запатрабаваньні спажыўца адначасова з таварным снабжэньнем—шмат для каго усё яшчэ няясны.

Аднак, сіла каапэрацыйнае грамадзкасьці ўзяла верх і ў кастрычніку 1928 году на Ленінскай вуліцы над невялікаю цёмнаю каморкаю з адным акном паказалася шыльда „Кніжна-папяровы магазын № 99 МЦРК".

З цікавасьцю глядзелі спажыўцы на ўбраную новымі кнігамі вітрыну і ня мала радавалася асабліва маладое пакаленьне новаму кроку ў рабоце каапэратыву. Ня гледзячы на ня вельмі „лобнае" месца магазыну і нягеглы яго выгляд, з першых-жа дзён, як адчыніўся магазын, паказалася маса кліентуры. Рухавы загадчык ня мала спрыяў папулярызацыі магазыну. Ён саматужным спосабам на васьмушках ліста паперы па ўсіх школах, клюбах, прадпрыемствах разаслаў „афішы" з кароткім нескладаным зьместам пра тое, што «адчыніўся магазын . . . у продажы ёсьць усялякія кнігі . . за грошы, у доўг» і г. д. З сямехгодак, факультэтаў, бібліотэк партарганізацый пацягліся «як мухі на агонь». У каго яшчэ не пастарэлі зубы «грызьці граніт навукі»—кожны ішоў, і такіх аказалася больш як гэта мог думаць аптымістычна настроены загадчык.

За кароткі тэрмін магазын № 99 на 11 годзе жыцьця ЦРК, гэты кніжны магазын набыў папулярнасьць ня меншую за любога «асілка», з вялікім штатам, шырокімі вітрынамі і гэтак далей. Попыт вызначае асартымэнт. У сакавіку асартымэнт кніжнага магазыну № 99 папоўніўся, таксама ўпяршыню ў практыцы ЦРК новым асартымэнтам—радыё-апаратамі, і выручаная сума за красавік месяц—3.744 рублі. Гэта красамоўна гаворыць пра мэтазагоднасьць і неабходнасьць арганізацыі гандлю кнігамі.

Пачалі гаманіць, каб прасунуць кнігі і ў гушчу пайнікаў на вытворчасьць. З лютага месяца зьявіліся кніганошы, няпрыкметныя рухавікі вялікае культурнае справы. За мізэрныя проценты яны распаўсюджвалі літаратуру па заводах і ўстановах, скарыстоўваючы і перапынкі на полудзень.

Літаральна ў памяшканьнях запалкавае скрыначкі паказаліся адзін за другім 6 кніжных будачак—на Ляхаўцы, на Маскоўскай, на Камунальнай, пры станцыі чыгункі і г. д.

Гнуткасьць і ўмельства падабраць кнігу, прасунуць яе да спажыўца, а іншы раз умець і ўзьдзейнічаць на спажыўца, каб кніга менавіта была куплена—асноўная ўмова для пасьпяховага снабжэньня кнігаю.

Справа з продажам кніг у рабочых сталоўнях, на рынках, на зьездах наладзілася вельмі хутка. ЦРК выступіў на вясновым месячніку кнігі.

Цяпер кніжны гандаль ЦРК ня днямі, а гадзінамі шырэе. Магазын мае кніг на суму да 13.000 рублёў. Вельмі шпарка ідуць падручнікі, палітычная літаратура і бэлетрыстыка.

ЦРК бярэ кнігі ў Белкаапсаюзе, а таксама зарыхтоўвае праз ГІЗ, Маскоўскі рабочы, Дзяржтэхвыдавецтва і Цэнтрасаюз. Слаба дае кнігі Белдзяржвыдавецтва. Яно ў вельмі абмежаванай колькасьці адпускае на беларускай мове падручнікі і г. д. У бліжэйшы час адчыняецца спэцыяльны магазын нацыянальнае літаратуры: яўрэйскае, польскае, літоўскае, латыскае.

Якія-ж вынікі кніжнага гандлю за дзевяць з паловаю месяцаў? З кастрычніка да жніўня было прададзена кніг больш як на 30.000 руб. З гэтага ліку прыблізна 8 проц. беларускіх, 16 проц. каапэрацыйных, гэтулькі-ж масавае і лубковае, а рэшта проценту падае на бэлетрыстыку. Кніганошамі распаўсюджваецца пераважна палітычная літаратура, і праз

іх з красавіка да жніўня рэалізавана кніг на суму да 2.000 руб. Шустра працуюць будкі. З адным работнікам па некаторых будках у дзень выходзіць да 150 руб., уключаючы сюды і продаж канцэлярскіх прыладаў. Ненармальна, што работнікі будак да гэтага часу жывуць на процантах са скідкаю ў іх карысьць да 15 проц. ЦРК мяркуе залічыць іх у штат. За чатыры з паловаю месяцы зварот ад продажу радыё-прылад складае больш як 13.000 руб. Увесь-жа зварот магазыну за дзевяць з паловаю месяцаў, уключаючы і канцэлярскія прылады, даходзіць да 80.000 руб.

Магазын абслугоўваецца 5-ма работнікамі.

Вынікаў „рэнтабэльнасьці" кніжнае справы, праўда, яшчэ ніхто добра не падлічыў, але вядома, што магазын працуе бяз ушчэрбку і нават мае звыш 500 руб. штомесячнага прыбытку.

Да недахопаў у рабоце з кнігаю трэба далучыць такія моманты: слаба наладжана сувязь з партыйнымі і прафсаюзнымі арганізацыямі, кепска абслугоўваюцца спажыўцы нацлітаратуры, не хапае літаратуры на беларускай мове, не ахоплены ўсе рабочыя сталоўні, ня зроблена належная рэкляма кніжнае работы ЦРК, а галоўнае ня вырашана пытаньне пра пазыкі на куплю кніг. І калі пазыка практыкуецца для арганізацый, дык гэта пакуль што робіцца неафіцыйным парадкам. Трэба спадзявацца, што гэтыя недахопы будуць у бліжэйшы час зьнішчаны, і гандаль кнігаю будзе ня меншым крокам ісьці наперад, як работа з прадметамі спажываньня.

**На аснове сацыялістычнага спаборніцтва, з прыцягненьнем шырокіх бядняцка - серадняцкіх мас, кожная вёска і раён павінны выканаць плян асеньняе пасеўкампаніі і калектывізацыі**

**Каапэрацыя павінна дапамагчы гэтаму**

# НА МЕСЦАХ

Ф-аў

## Зьнішчаем чаргі

Жыцьцё Менскага ЦРК ішло, як кажуць, бяз прыліваў і адліваў. Становішча з мясам к таму часу крыху пагоршылася, на малако выдалі абанэмэнты, у крамах паказаліся яблыкі і ігрушы, гарбузы і г. д. Праўда, чаргі як бы не паменшыліся. Спажывец, як і раней, траціў 2-3 гадзіны ў каапэрацыйных хвастох. І к гэтаму пачалі нібыта прывыкаць і спажыўцы і апаратнікі ЦРК.

Пайсьці пастаяць у чарзе—гэта ўжо было роўналежна таму разуменьню, як пара сьнедаць... пара лажыцца спаць... і так чаргі яшчэ на доўгія гады ня страцілі-б грамадзянства, калі-б... калі-б ня ліст Цэнтрасаюзу пра рацыяналізатарскі мінімум ды яшчэ з цьвёрдымі тэрмінамі.

Многа нарабіў няпрыемнасьці гэты ліст у залатыя жнівеньскія дні: пераблыталіся адпачынкі, многія не дабылі да канца, а іншыя і зусім адмовіліся.

— Трэба быка браць за рогі, сказаў старшыня праўленьня, а калі ня возьмеш, дык цябе возьмуць.

На экстраным пленуме праўленьня 5-га верасьня справа пачалася з таго што старшыня пакашляў, паглядзеў на ўсіх і сказаў:—Вось гэта яно і значыць тварам да спажыўца.

Тут жа для зьдзейсьненьня рацыяналізатарскага мінімуму дасканала падлічылі, што мы маем, і намеркавалі, што трэба зрабіць.

У некаторых галінах работы вынікі аказаліся ня дрэнныя. Калі на 1 каст. 1928 г. ЦРК меў 101 краму, 17 будак, то на 1 верасьня 1929 г. мае: 170 крам (рост на 70 проц.) і 31 будку (рост на 94 проц.).

Гэтыя лічбы паказваюць, што па лініі пашырэньня сеткі ЦРК ёсьць буйныя дасягненьні, калі прыняць пад увагу, што гатовыя памяшканьні, асабліва на ўскраінах гораду, амаль усе скарыстаны. Рост сеткі ішоў за лік адчыненьня крам на ўскраінах. На 1 кастр. 1928 году на ўскраінах налічвалася 52 будкі, а на 1 верасьня 1929 г. іх налічваецца 120, або 61 проц. да агульнае колькасьці крам, ня лічачы паўцэнтральных.

Дзеля выкананьня рацыяналізатарскага мінімуму на 29-30 год намяркована адчыніць новых 47 крам, к 1 сакавіка 1930 году павялічыць колькасьць будак на 20 адзінак. К 15 кастрычніка намяркована абсталяваць 10 ручных цялежак, каб развозіць гародніну, садовіну, тытун, кандыгэрскія і галянтарэйныя тавары. Да гэтага тэрміну будуць зроблены тры дыліжаны вазіць харчавыя тавары. Будзе зроблена тры цялежкі, каб развозіць газу. Калі, зразумела, сур'ёзна падысьці да пытаньня пашырэньня сеткі (а іначай пытаньне і не павінна стаяць), дык таго, што намяркована, бязумоўна ня хопіць. Прыватнік расьцярэбвае прастор для каапэрацыйнае работы шмат шыбчэй. Дзеля гэтага намяркована пашырэньне сеткі за лік пераводу на 1½ і 2-зьменную работу і перавод на бесьперапынны гандлёвы тыдзень.

К гэтаму часу з агульнае сеткі ў 190 крам і будак працуе ў 2 зьмены 52 крамы, у 1½ зьмены—27 крам і без перапынкаў на полудзень 10, або 42 проц. да ўсяе сеткі. Пераведзена на бесьперапынны гандлёвы тыдзень 20 крам, або 12 проц. Дадаткова к 1 сьнежня пераводзіцца на 1½ і 2-зьменную работу 46 крам, што складае 56 проц. усяе сеткі.

На бесьперапынны гандлёвы тыдзень к 1-му кастрычніка пераведзена 18 крам, а к 1 сьнежня будзе пераведзена 28 крам. Такім чынам, к

1 сьнежня будзе пераведзена 31 проц. крам на бесьперапынны гандлёвы тыдзень.

Частка крам намяркоўваецца да пашырэньня і пераабсталяваньня.

Па рацыяналізатарскаму мінімуму к канцу верасьня намяркована скончыць прымацаваньне пайнікаў да крам, у 25 крамах арганізаваць папярэднія заказы і дастаўку на дом. Намяркоўваецца дакладны мінімум фасоўкі тавараў, захоўваецца парадак выдачы дэфіцытных тавараў адначасова ва ўсіх крамах з захаваньнем водпуску і парадку нумароў каапэрацыйчых кніжак. Частка тавараў, як і раней будзе разьмяркоўвацца талёнамі. Усе крамы будуць мець спэцыяльныя скрынкі з нарэзнаю паперао для абгорткі. 141 крама будзе працаваць бяз кас, 13—з касамі аўтаматамі, а ў 36 крамах будуць пастаўлены рулонныя касы. Садова-гародняму складу катэгарычна прапанована даваць крамам толькі гатунковы тавар.

Арганізоўваецца разам з акргандлем паход супроць Малакасаюзу за сваячасовую дастаўку малака непасрэдна з саўгасаў, мінуючы базы.

У выніку рацыяналізатарскага мінімуму ўрэшце можа нарадзіцца майстэрня, каб перарабляць гатовае адзеньне і абутак.

На гэтым жа пасяджэньні праўленьня ўспомнілі пра тое, пра што даўно забыліся—пра скаргавыя кнігі, пра даведачаныя дошкі, пра вывешваньне цэн на тавары і г. д.

З 15 кастр. па 1 лістапада разам з каапакатывам арганізоўваецца наступленьне супроць бруду ў крамах і супроць агульнага ворага культурнага абслугоўваньня-антысанітарыі.

Наважыліся раскапаць старую пастанову СНК БССР пра выдачу зарплаты ў розныя часы.

У галіне найбольш слабага месца работы ЦРК па лініі падрыхтоўкі кадраў у бліжэйшы час, не пазьней 15 кастрычніка, будуць арганізованы курсы на загадчыкаў магазынаў на 150, чалавек на перакваліфікацыю работнікаў на 100 чалавек і на падрыхтоўку прадаўцоў з ліку каапакатыву, рабочых, камсамольцаў на 150 чалавек. Ужо ўзяліся за перагляд гадзін гандлю. А каб прыцягнуць да гэтае работы каапэраваныя масы каапактыву і каб адрэзаць шляхі адступленьня ад намяркованага рацыяналізатарскага мінімуму, гэтая пастанова будзе гэтымі днямі вынесена на суд каап. актыву і будзе надрукавана ў газэтах.

Каб штырхаць і зьдзяйсьняць намяркованыя мерапрыемствы, будзе арганізована 10 брыгад з ліку каап. актываў.

Трэба думаць, што з дапамогаю пайнікаў, каап. актыву, савецкіх і прафэсіянальных арганізацый намяркованы рацыяналізатарскі мінімум будзе выкананы ў тэрмін. Даводзіцца шкадаваць аднаго, што ўсе гэтыя добрыя пачаткі зьявіліся вынікам націску, загадаў, а ня ў выніку штодзённае нашае творчае работы. А тут жа сапраўды нічога новага няма, і такія пастановы маглі быць зроблены шмат раней 5-га верасьня.

**Макар Валацуга**

# Па каапэрацыйных ухабах

(*Дарожныя нататкі Макара Валацугі*)

Калі я іду цяпер па дарозе, мне хочацца нешта нібыта пець, нібыта дэклямаваць, нібыта апавядаць. Дарога вельмі пыльная. Дождж неяк зьбіўся з трыбу і ня ідзе ўжо цэлы тыдзень. Наўкол усё апырскана сонечнымі праменьнямі. На полі відаць пажоўклы бульбоўнік. Ляціць і чапляецца за гэты бульбоўнік белае як, сьнег, мяккае такое павуціньне.

— Восень,— вырываецца з маіх вуснаў.—Якая слаўная, багатая пара! І мне хочацца, і я кажу вуснамі крамара Балатнянскага аддзяленьня Доўскага спажывецкага таварыства, на Магілеўшчыне,—дык я кажу яго вус-

намі:—О, восень! Як люблю я цябе глыбокую такую, поўную, чароўную, пазлацаную пажоўклымі лістамі бяроз. Як слаўна, як міла высьці за вёску Балотня і, стоячы на ўзгорку, што асыпан дробным каменьнем, слухаць тваe ціхія чары.

— Восень.—Адно слова, а колькі музычнасьці, колькі хараства! Мне няма аніякага інтарэсу разважаць тады,—кажа крамар,—разважаць пра тое, што зачынена маё аддзяленьне, калі я стаю на ўзгорку. Няхай сабе хоць найпільней каму трэба якія-небудзь куплі—я не магу адрываць маіх вачэй ад восені.

Ды крамар захапляецца восеньню, а крама зачынена. І ён праў. Бо крама ня дзе дзенецца, а восень бывае ў год адзін раз. Дык калі і пабудзе зачыненаю на працягу восені—вытрымаюць спажыўцы.

І я іду, гляджу на зьмеценую ветрам кучку бярозавых лісткоў. Яны на сонцы блішчаць жывым золатам. Аж мяняюцца—да таго яркі поўны іх пазлацаны бляск.

— Так, — вырашаю я,—восень.. восень дарагая пара году, каштоўная пара.

* * *

Думкі. Як далёка могуць ляцець, могуць лавіць і раскусваць злоўленае чалавечыя думкі.

І я цяпер ідучы таксама лаўлю і раскусваю. Я чамусьці ўспамінаю маіх знаёмых з Грэскага спажывецкага таварыства. Ведама, як ідучы па дарозе, ды як адзін да гэтага. Дык дзіва, што будзе ўспамінацца... Ды тым больш-знаёмыя, добрыя дружакі.

— Копаць Янка... Я яго як бачу. Сваімі от уласнымі вачыма. Вельмі дабрадушны чалавек. Ён, табе, калі сустрэнецца з чалавекам, ды яшчэ са знаёмым, яшчэ мо' з дружаком, ён табе ня выпусьціць гэтага чалавека.Дудкі

— Як?—зьдзівіцца ён, — колькі зім, колькі год, а ты ня хочаш аддаць мне некалькі хвілін, ня хочаш, каб дзылынкнулі нашыя кілішкі... Дудкі.

І бязумоўна: хіба можна адгаварвацца ад такога чалавека? Хіба можна, у якога душа мяккая, як пух?

І ніхто не адгаварваецца ад Янкі.

Я цяпер ідучы, наперад ужо, загадзе, уяўляю сам сабе, як бы сустрэў мяне Янка. Не адна, а дзьве, а мо' калі-б пашанцавала—тры, чатыры плакалі-б расьціснутыя чырвонагаловыя пляшкі.

— Янка!—залаты чалавек Янка!

Канешна, у Янкі Копаця за гры месяцы яго працы ў мясной краме не хапіла 700 руб. Ну што-ж з гэтага? Хіба толькі ў аднаго Янкі не хапіла! А калі ў загадчыка піўное крамы—Станіслаўчыка, гэтулькі сама не хапіла. А калі, от-жа побач, у крэдытным таварыстве у Дашкевіча—не семсот, а нават цэлае тысячы не хапіла! Бязумоўна Станіслаўчык год пратарабаніў у допры... Дык калі на тое пайшло, дык хіба Янка першы ў недахопах, ці як цяперака іх зваць—у растратах у гэтых самых вінаваты.

Адным словам, мілыя людзі як у Грэскім спажывецкім, так і ў крэдытным таварыствах.

Зайду як-небудзь. Таксама не пашкодзіла-б, каб са мною і яшчэ хтонебудзь зайшоў. Гуртам весялей.

* * *

— Колькі добрых людзей на сьвеце! Проста такі шмат. І суседзяў шмат і так знаёмых-блізкіх шмат. Цяперашніх і даўнейшых. Калі ўспамінаць аж ад маленства, дык—не пералічыш.

І я іду сабе, і разважаю. Злёгку павявае ўсходні ветрык. Маленькі такі, чуць-чуць. Ідучы я ні з кім не сустракаюся. Ведама як у восень.

— Дык дзіва што,—разважаю я далей,—дзіва, што Заблюк, што з Ракошыцкага спажывецкага таварыства на Барысаўшчыне, таксама мае шмат знаёмых. Таксама мае Заблюк і блізкіх і суседзяў. І нават радню мае. Ну што калі гэта так, дык хто-ж гэта будзе супраць таго, каб ня ў дружыць, скажам, добраму, блізкаму знаёмаму чалавеку. Гэта, можна сказаць, можа толькі ня ўдружваць чалавек, у якога сьціснутае сэрца, у якога ўсё роўнае: і восень і вясна.

І Заблюк удружвае. Усе яго блізкія знаёмыя, а найбольш - радня

атрымліваюць спажывецкія тавары па сем з паловаю, а то і па восем разоў. А тое, што „незнаёмыя“, а таксама і—„ня блізкія“—па разу нават не атрымліваюць, дык гэта... Дык на тое яны-ж і „незнаёмыя“, і „ня блізкія“ (мала што яны, таксама, пайнікі. Цяпер пайнікаў повен сьвет—уга!

Дык я ізноў іду. Сьвішчу, пакрысе, ідучы. Я вельмі ўжо люблю сьвістаць. Найбольш люблю сьвістаць праз зубы.

Вечарэе цяпер. Унь дзека нехта зебліць. Ідзе каля мяжы. І от аж упінаецца-трымае за ручкі плуга, каб хаця не крануць, каб хаця не заараць мяжы.

— А хутка-ж от зусім пагіблая прыдзе на гэтыя межы,—разважаю я.—Так што ты, мой дзядзечка,тады ня будзеш так пнуцца, мучыцца над гэтым вытупленым плугам. Тут толькі от каб падправіцца крыху з нашаю цяперашняю будоўляю. Канешне—на ўсё патрэбен тэрмін. У гэтым самае галоўнае. Тэрмін нават патрэбен і на тое, каб пазбавіцца, і нават начыстую, „незнаёмых“ людзей... Каб, адным словам, усе былі знаёмыя з тым, хто скажам, адпускае тавары і ўсё такое.

* * *

Калі я цяпер перастуапаю з аднае нагі на другую, мне напамінаецца тухлае сала. Тое сала, што прытухла „крыху“ у Осава-Забярэзінскім, агнятрывалым таварыстве. Мне напамінаецца гэтае сала, як купіў яго адзін селянін з вёскі Пясок. Дык селянін купіў і не панюхаўшы ў краме. А раз, браток, адышоў ад прыкрамка—фарфал. Так што там колькі хочаш нюхай-усё роўна. Мала што ты мог зрабіць салу. Што гэта: можна нават і на сонцы патрымаць цэлую гадзіну наўмысьля, каб яно прытухала, і тады, прынесшы ў краму, сказаць, што яно тухлае, можна, таксама, нават тухлінаю якою-небудзь спырснуць яго і таксама-сказаць. Ды ці мала што можна зрабіць з салам, каб „нападаць“ потым на спажывецкае таварыства. Так што—фарфал, раз ты адышоў „ад касы, не праверыўшы грошай“. А тое, што і яшчэ і яшчэ потым куплялі і ня з вёскі Пясок, і таксама казалі, дык хто гэта ў гэтым вінен, калі на тое пайшло. Трэба было ня купляць. Бо калі, таксама на тое пайшло у Осава-Забярэзінскім агнятрывалым таварыстве і так уньвэксалёў ня выплачаных, хоць гаць-гаці. Так што калі на чарапіцы, на бэтоне, на цымэнце нельга выручыць, каб патушыць вэксалі, трэба на чым-небудзь выручаць. І сала тутні ў якім разе нельга пускаць на ўзьві-вецер.

І я іду памаленьку, сам сабе. Іду, пакрысе кідаю зірк пад ногі, каб не спатыкнуцца, каб не паваліцца. Да цямна зайду мабыць да... да унь-дзека тае, што відаць каля лесу, вёскі,—разважаю я таксама сам з сабою, ідучы павольнаю хадою.

**Перац**

# Сьмятана

Адно слова — сьмятана, а ўжо сьліну так і гоніць. От бо ўжо смак, от бо справа. І з чым яе толькі не ядуць: і з блінамі, і з грыбамі, і з цыбуляю, і з салатаю—ну з чым толькі хочаш, да ўсяго яна ідзе. А цягне-ж да яе-ого-го-го, ну проста такі як магнэсам. І ўсіх да яе цягне: малых і старых, жанчын і мужчын, катоў і сабак, беднага і багатага—ну ўсіх! Ого-о-о гэта сьмятана.

У Слабоцкім малочным заводзе, што знаходзіцца ў Заслаўскім раёне, дык такая была справа з сьмятанаю. У яе ўнадзіўся адзін малады хлопец, заможны селянін Кавалеўскі з хутара Маява-Траскоўскага сельсавету. Ён так да яе прывык, так яе спадабаў, што ня было таго дня, каб ён па некалькі гадзін не праседжваў на заводзе, мяркуючыся лізнуць гэтае пажытнае магнэсавае стравы. От бо

ўжо спадабаў. Лепш як які-небудзь памаўзьлівы кот. Але-ж проста такі дзень у дзень ён стараўся яе палізаць...

Ды каб-жа толькі палізаць, ну ці хоць бы выпіць якога паўлітра,—ліха-б яго бяры, гэта-б яшчэ папалам была бяда, а то ён і з сабою яшчэ дамоў браў, мабыць нанач, ці кадук яго знае...

Вас, чытач, можа зацікавіць, як гэта ўсё адбывалася, як гэта яму ўдавалася лізаць ды яшчэ і дамоў браць.

Хэ-хэ... Гэта рабілася зусім проста.

Бывала прыедзе гэта сабе Кавалеўскі ў завод, прывязе малачка бітончык, ну і... і... літарчык, або паўлітарачка гэтае самае... гарэлачкі. А тады ўжо справа ідзе зусім проста. Малако вылівае, а ў гэты самы бітончык налівае сьмятанку. Затыкае яе, а адтыкае пляшку з гарэлкаю і схіліўшыся дзе-небудзь за вугол з малочнікам Шаблоўскім з смакам, ня меншым як і да сьмятаны, вы-пі-ва-ю-ць. Ну, а тады па братэрску паціснуць адзін другому рукі, і справе—канец. Кавалеўскі з сьмятанаю едзе дамоў. Абодвы п'яны, сыты, і нос у табацы.

Ну і растлусьцелі былі вось гэтыя два хлопцы,—проста кроў з малаком. Усе казалі: „Вот здаровыя хлопцы, як рыжы".

І невядома, што б было з гэтымі ласунчыкамі дагэтуль, каб не адзін паганы выпадак. Гэта проста няшчасьце з хлопцамі здарылася.

Ня ведаю, у якую пару, здаецца вечарам, Кавалеўскі з заводу варочаўся дамоў. І як на тое, нейкім чынам, сустракаецца з старшынёю заводу, які, не саромячыся Кавалеўскага, у яго ўласны бітончык, які быў добра на возе запакаваны, пасунуў свой доўгі нос і абнюхаў у ім сьмятану. Вы ведаеце, што Кавалеўскі ўвачавідкі так і пабялеў. Гэтак—сама пабялеў пасьля і Шаблоўскі, калі пачуў пра гэты выпадак з Кавалеўскім.

Але мабыць пабялеюць яны яшчэ ня гэтак, як адбудзецца суд, куды справа аб гэтым выпадку перадана.

**Рэдакцыя адказвае на ўсе пытаньні, якія не зразумелы для каапэрацыйных працаўнікоў і пайшчыкаў у працы на мясцох**

**Дасылайце запытаньні**

# БІБЛІОГРАФІЯ

**С. Тупяневіч. Ураджай і мінэральныя ўгнаеньні. Белдзяржвыдавецтва 1929 г., ст. 36,** *цана 10 кап.*

Да гэтага часу ў нас ня было яшчэ ніводнае папулярнай брашуркі, якая-б злучала ў сабе тэорыю і практычнае прыстасаваньне хэмічнага ўгнаеньня для сельскае гаспадаркі і якая-б магла быць даступнаю кожнаму малапісьменнаму селяніну.

Брашурка С. Тупяневіча „Ураджай і мінэральнае ўгнаеньні" якраз зьяўляецца вось гэтаю масаваю, папулярнаю брашуркаю. Праз яе селянін бяз усякае напружанасьці зможа прыстасоўваць тыя ці іншыя хэмічныя ўгнаеньні ў сваёй гаспадарцы, незалежна ад якасьці глебы.

Тупяневіч, клясыфікуючы хэмічныя ўгнаеньні, бярэ яшчэ кожнае з іх паасобку і падрабязна тлумачыць, як, калі, у якую пару году, на якой глебе, як трэба падрыхтоўваць гэту глебу, каб больш рэнтабэльна скарыстаць гэты хэмічны гной.

Вы ў гэтай брашурцы можаце знайсьці, як прыстасоўваць да тае ці іншае глебы азотныя ўгнаеньні: чыліўскую салетру, нарвэскую салетру, сярчана-кіслы амоніяк; можаце знайсьці, як прыстасоўваць фосфарнакіслыя ўгнаеньні: фасфарыт, супэрфасфат, тамасоўку, касьцяную муку. Гэтаксама знойдзеце ў ёй і пра каліевыя ўгнаеньні: як каліевую соль, попел ды іншыя. Усё гэта складзена проста, зразумела, абгрунтована фактамі дасьледчых станцый, або досьледамі гаспадароў-культурнікаў.

Таксама ў гэтай брашурцы паказана ў лічбах, колькі трэба таго ці іншага хэмічнага ўгнаеньня на 1 гэктар, а таксама, наколькі яго (ўгнаеньне) павялічвае ўраджайнасьць.

Трэба сказаць, што брашурка С. Тупяневіча каштоўна для нашага часу, як зразумелы дапаможнік селяніну ў падняцьці яго гаспадаркі і ўраджайнасьці глебы праз хэмізацыю яе. Яе неабходна папулярызаваць і наблізіць да селяніна-гаспадара. С. К.

---

**А. Рыбакоў. Каапэрацыя і падвышэньне ўраджайнасьці.** З двума дадаткамі пра сучаснае становішча і далейшы кірунак арг.-інструкт. працы сыстэмы с.-г. каапэрацыі (з пастановы Усебеларускай нарады) і пастанова СНК БССР пра ўвядзеньне абавязковых для землякарыстальнікаў агр.-культ. паляпшэньняў у с.-г., ст. 122, *цана 35 кап.*

Па сваім зьмесьце, рэцэнзуемая намі кніжка „Каапэрацыя і падвышэньне ўраджайнасьці" можа быць добрым дапаможнікам у працы сельгаспадарчага актыву: аграному, праўленьням рознага сорту сельгаспадарчых арцеляў і для іншых працаўнікоў па сельгаспадарцы. Ні ў якім разе гэта кніжка ня можа мець сабе шырокамасавага чытача, звычайнага земляроба, малапісьменнага селяніна, хоць на вокладцы яе (кніжкі) і напісана: „сялянская бібліотэка".

У кніжцы, акрамя агульных заўваг і дзьвёх пастаноў, ёсьць дзесяць мерапрыемстваў па розных галінах сельгаспадаркі. Тут можна знайсьці, наколькі машына скарачае працу ў сельгаспадарцы і падымае яе ўраджайнасьць, наколькі карысна сеяць гатунковым насеньнем, пра карысьць штучнага ўгнаеньня, якое вялікае псаваньне і патрату робяць рознага сорту шкоднікі расьлін, які вялікі прыбытак дае гаспадарцы пародзістая жывёла і шмат чаго другога важнага для падняцьця сельгаспадаркі. Усе гэтыя мерапрыемствы зьяўляюцца ў большай меры канстатаваньнем фактаў, якія неабходна зьдзейсьніць і якія вымагаюць зьвярнуць вялікую ўвагу з боку сельгаспадарчых працаўнікоў. Але аўтар мала дае тлумачэньня па практычным прыстасаваньні вось гэтых мерапрыемстваў ў сельскай гаспадарцы.

Гаворачы, напрыклад, аб шкодніках расьлін, аўтар толькі канстатуе факт, што яны робяць псаваньне, што яны робяць патрату для сельгаспадаркі, не раячы сродкаў для барацьбы з імі.

Ці возьмем хаця-б штучнае ўгнаеньне, або аб пародзістай скаціне. Тут гэтаксама аўтар не дае канчатковага тлумачэньня, як прыстасоўваць тое ці іншае ўгнаеньне, дзе і на якой глебе яно карысьней, або якую пароду скаціны лепш разводзіць у Беларусі. А гэта было-б вельмі пажадана. Гэтыя практычныя тлумачэньні яшчэ больш павялічылі-б кошт кніжкі і зрабілі-б яе масавай, даступнай для кожнага малапісьменнага селяніна-гаспадара, які зацікаўлен, каб падняць сваю гаспадарку, і які зараз выкарыстоўвае навуковую практыку. **Куніцкі**

---

*Рэдактар—РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ*

*Выдавец—Каапцэнтры БССР, Белсельбанк і Ўсекабанк*

